www.nv-online.info

№ 10 (4262)

2 лютага 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## З прызначэннем!

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указы, у адпаведнасці з якімі праведзены кадравыя прызначэнні ў кіраўніцтве праваахоўных органаў.

**Алег Маткін** прызначаны начальнікам Дэпартамента выканання пакаранняў МУС. Раней ён быў першым намеснікам камандзіра ўнутраных войскаў МУС – начальнікам штаба.

**Аляксандр Кавальчук** стаў начальнікам УУС Мінскага аблвыканкама. Яго перавялі з аналагічнай пасады з Магілёва. У сваю чаргу начальнікам УУС Магілёўскага аблвыканкама стаў **Ігар Шчарбачэня.**

**Ігар Бурмістраў** прызначаны на пасаду першага намесніка камандуючага ўнутранымі войскамі МУС – начальніка штаба.

## З 1990 года колькасць насельніцтва Беларусі не расце, а змяншаецца

| Год | Колькасць насельніцтва (мільёнаў чалавек) |
|---|---|
| 1950 | 7,709 |
| 1960 | 8,147 |
| 1970 | 8,9922 |
| 1980 | 9,5918 |
| 1990 | 10,1889 |
| 2000 | 10,0195 |
| 2010 | 9,4802 |
| 2017 | 9,468 |




ДА ВЕДАМА

## Павышаюцца пенсіі. Але не ўсе

З 1 лютага павялічаны памеры мінімальных працоўных і сацыяльных пенсій. Яны, як вядома, залежаць ад памеру бюджэту пражытачнага мінімуму, які таксама з 1 лютага падрос на 1,51 рубля і склаў 199,32 рубля.

З 1 лютага **мінімальны памер пенсіі па ўзросце** складзе – 181,94 рубля, **сацыяльных пенсій** – 219,25;

**даплаты да пенсій асобам, якія дасягнулі 75 гадоў,** – 37,37;

**даплаты да пенсій асобам, якія дасягнулі 80 гадоў,** – 49,83;

**надбаўкі да пенсій інвалідам I групы** – 49,83 рубля;

**дапамогі для догляду** – 199,32 (інвалідам I групы або асобы, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту пры доглядзе адной асобы) і 239,18 рубля (пры доглядзе дзвюх і больш асоб).

Што тычыцца працоўнай пенсіі па ўзросце, то яна застаецца на ранейшым узроўні. Сёння ў сярэднім беларускія пенсіянеры атрымліваюць каля 315 рублёў пенсіі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

РЭГІСТРАТУРА

## Зарабілі...

За 2017 год экспарт медыцынскіх паслуг у Беларусі склаў 43 млн долараў, паведаміў міністр аховы здароўя **Валерый Малашка.** Але калі да гэтай лічбы яшчэ дадаць грошы, выручаныя за адукацыйныя паслугі ў ахове здароўя, то будзе больш за 60 млн долараў.

*"У планах на 2018 год – нарошчваць экспарт далей"*, – заявіў Малашка.

Лічбы, канешне, унушальныя, калі ўлічыць, што яшчэ 7 гадоў таму, у 2011 годзе беларускія медыкі зарабілі на экспарце медпаслуг менш за 10 мільёнаў долараў. Але сёння беларускія ўрачы выконваюць перасадкі органаў, складаныя аперацыі на сэрцы, за якія замежнікі плацяць немалыя грошы. Едуць пацыенты з-за мяжы і да нашых анколагаў, траўматолагаў і г.д.

*"Ва ўстановы аховы здароўя ўкладзена даволі шмат рэсурсаў, і сёння ад іх павінна быць аддача, у тым ліку з уплывам на ўзровень зарплаты медработнікаў і прафесарска-выкладчыцкага складу ва ўстановах адукацыі»*, – адзначыў Валерый Малашка.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПАЗІЦЫЯ

## Былы міністр адукацыі Пётр Брыгадзін прапануе выкладаць гуманітарныя прадметы па-беларуску ва ўсіх школах



Цяпер П.Брыгадзін працуе дырэктарам Дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ. Вось яго канцэпцыя, выкладзеная «Нашай Ніве», наконт **выкладання гуманітарных прадметаў па-беларуску нават у рускамоўных школах…**

– Сапраўды, гэта тая тэма, якая патрабуе не проста размоў, але і прыняцця канкрэтных рашэнняў. Мяне засмучае, што скарачаецца колькасць беларускамоўных плыняў, школ у вёсцы. Трэба думаць, як падтрымаць беларускамоўныя плыні. Мы нічога новага тут не прыдумаем: такое ўжо было ў Беларусі пасля вайны, у 1950-я. Тады некаторыя прадметы выкладаліся на беларускай мове, іншыя – на рускай. І нават у беларускамоўных школах частка прадметаў выкладалася на рускай. Выкладчыкі самі вырашалі, якой мовай яны лепш валодаюць і якой аддаюць перавагу. І гэта вырашалася на мясцовым узроўні.

У мяне, напрыклад, у школе гісторыя выкладалася па-руску, а матэматыка – па-беларуску, фізіка – па-руску, хімія – па-беларуску. А мы, сельскія дзеці, размаўлялі на паляшуцкай мове. Калі прыязджаю ў родныя мясціны, то адразу пераходжу са старымі на сваю мову. І яны кажуць: «О, свой». З мамай я размаўляю па-паляшуцку, з бацькам – на рускай. І такое шматмоўнае асяроддзе не перашкаджала нам у развіцці.

На сёння ў навучальных установах павінны быць тры мовы: беларуская, руская і англійская як мова, без якой мы не створым новую IT-эканоміку. Выкладанне некаторых прадметаў, найперш гуманітарнага цыкла, як гісторыя, трэба рабіць на беларускай мове.

СІТУАЦЫЯ

## Ці ёсць небяспека ў Беларусі для Зянона Пазьняка?

Як паведамляла "Народная Воля" ў мінулым нумары, паэт і грамадскі актывіст **Славамір Адамовіч** звярнуўся з адкрытым лістом да беларускага нацыянальнага лідара ў выгнанні **Зянона Пазьняка** і прапанаваў яму *"наведаць нашу краіну з нагоды святкавання надзвычайнай даты ў гісторыі беларускага народа – 100-й гадавіны з часу абвяшчэння БНР"*.

Сам Зянон Станіслававіч, які з 1996 года знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі, пакуль не пракаментаваў прапанову спадара Адамовіча, а вось яго паплечнік па партыі **Юрась Беленькі** з гэтай нагоды выказаўся даволі катэгарычна: *"Я ўжо сто разоў казаў, што Пазьняку небяспечна вяртацца дадому. Чаго сюды прыязджаць? Каб быць знішчаным?.."*

Мы звярнуліся ў некаторыя сілавыя структуры і вырашылі даведацца: можа, і праўда ў спецслужб, памежнікаў альбо міліцыі ёсць планы па арышце лідара КХП-БНФ, як толькі той перасячэ дзяржаўную мяжу?

У МУС і Дзяржаўным памежным камітэце адказалі коратка і практычна аднолькава: *"Такой інфармацыяй не валодаем"*.

*"Я нават не ведаю, што тут можна сказаць*, – дадае прэс-сакратар Камітэта дзяржаўнай бяспекі **Дзмітрый Пабяржын**. – *Няхай паплечнікі Пазьняка самі каментуюць свае домыслы. Я не ведаю, якія ў іх падставы сцвярджаць тое, пра што яны кажуць. Каментаваць іх заявы мы адназначна не будзем"*.

Таксама я пацікавіўся і ў самога Славаміра Адамовіча, ці ёсць рэакцыя на яго прапанову ад Зянона Станіслававіча.

*"Са мной ніхто не звязваўся, і пра рэакцыю не чуў таксама*, – кажа паэт. – *Але яшчэ раз хачу нагадаць, што я прасіў Зянона Станіслававіча не вяртацца ў Беларусь, а наведаць краіну ў якасці госця з нагоды святкавання 100-годдзя БНР. Лічу, што гэта абсалютна нармальная і рэальная прапанова. Размовы пра небяспеку вяртання ў краіну цягнуцца ўжо больш за 20 гадоў, але, калі Зянон Пазьняк – велічыня такога маштабу, як кажуць яго паплечнікі, то не могуць быць ніжэй гонару нейкія размовы пра небяспеку. Калі ты вырашыў займацца палітыкай, прэтэндуеш на лідарства, то мусіш быць гатовым абсалютна да ўсяго. Таму не ўсё так прамалінейна, як гэта падаецца атачэннем Зянона Станіслававіча. Тое, што, магчыма, магло быць актуальным у 1990-я гады, сёння знаходзіцца зусім у іншай плоскасці. І заявы пра небяспеку, як мне падаецца, – гэта абсалютнае перабольшванне. Не трэба ж людзей лічыць зусім за прастачкоў..."*

**Віктар ШПАК.**

ПРЭСА

## «Грошай можа хапіць на год»

Тэлеканал «Белсат» атрымае на дзейнасць у 2018 годзе 20 млн злотых (каля 4,8 млн еўра) з мэтавых датацый Міністэрства замежных спраў Польшчы, піша Press.pl.

Дырэктар тэлеканала **Агнешка Рамашэўска-Гузы** на сустрэчы з журналістамі заявіла, што «Белсат» выжыве» – грошай можа хапіць на год працы. У будучыні не выключаецца, што «Белсат» будзе фінансавацца МЗС на пастаяннай аснове, – піша wirtualnemedia.pl. Дырэктар польскай тэлевізіі TVP **Яцэк Курскі** заявіў, што датацыі МЗС – гэта «сігнал, што нешта змянілася ў польскай палітыцы».



УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

## Аператыўнікі былі вымушаны страляць па колах

*У Мінску затрымалі наркагандляра, які купляў наркотыкі за крыптавалюту.*

Супрацоўнікі аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Першамайскага РУУС Мінска пры сілавой падтрымцы байцоў спецыяльнага атрада хуткага рэагавання МУС затрымалі 34-гадовага беспрацоўнага мінчаніна, які зарабляў тым, што прадаваў наркотыкі па прынцыпе «з рук у рукі». Устаноўлена, што пакупнікі наркотыкаў пералічвалі прадаўцу грошы на банкаўскую карту, а ён канвертаваў іх у крыптавалюту, за якую затым купляў буйныя партыі псіхатропаў.

Затрыманне адбылося на праспекце Незалежнасці. Пры гэтым аператыўнікі былі вымушаны страляць па колах. У часператрусу ў прадаўца было знойдзена і канфіскавана 10,3 грама псіхатропнага рэчыва белага колеру, у пакупніка – 0,6 грама. Эксперты ўстанавілі, што канфіскаванае парашкападобнае рэчыва змяшчае ў сваім складзе асабліва небяспечнае псіхатропнае рэчыва – параметылэфедранам.

КАНДИДАТЫ

## Иван КРУК: «Жители Островца и сегодня идут ко мне со своими проблемами как к депутату»

*Член Объединенной гражданской партии, юрист, пенсионер МВД Иван Крук пятый раз подряд пытается стать депутатом местного Совета. Четыре предыдущие кампании для него заканчивались не начавшись, – под разными предлогами избирком не регистрировал Крука кандидатом в депутаты. А теперь активист решил побороться за место сразу в двух Советах – в Островецком районном Совете депутатов и в Гродненском областном Совете депутатов. О предвыборной кампании, о том, что Иван Крук планирует делать для избирателей Островца в случае своей победы, он рассказал в интервью «Народной Воле».*




**– Иван Федорович, как вам удалось стать дважды кандидатом?**

– Законом это не запрещено. В районный Совет выдвигался через сбор подписей, и в этот раз никаких вопросов у избирательной комиссии не возникло, хотя и раньше все их претензии были надуманные. Люди охотно подписывались за меня, за три дня я со своей командой собрал 110 подписей при необходимых 75. Когда в районной газете опубликовали списки кандидатов, многие звонили, поздравляли. В областной Совет выдвигаюсь от Объединенной гражданской партии, надо популяризировать ОГП.

Я добавил хоть немного интриги в эти выборы. В нашем районе 26 избирательных округов, и, представьте, только в моем Центральном избирательном округе №1 будет два кандидата – я и нынешний депутат Островецкого районного Совета **Тамара Котяк**. Во всех остальных 25 округах зарегистрировано по одному (!) кандидату, почти все они – депутаты прежнего созыва и переизбираются на второй срок. О чем это говорит? Об апатии в обществе, о недоверии белорусов к избирательной системе. Люди не хотят ни голосовать, ни бороться за депутатский мандат, потому что знают: выборы у нас чисто формальные.

**– Зачем вы тогда выдвинулись в качестве кандидата?**

– Потому что мне лично не безразлично то, что происходит в моем районе, в моем городе. Люди об этом знают. Жители Островца и сегодня идут ко мне со своими проблемами как к депутату, и я им помогаю. Я бывший сотрудник уголовного розыска, перед пенсией работал старшим следователем Островецкого РОВД, юрист по образованию, кстати, закончил тот же вуз, что и Лидия Ермошина, – Калининградский университет. Депутатский мандат даст мне возможность еще больше защищать граждан от любого незаконного вмешательства государства в сферу их жизненных интересов.

Может, прозвучит нескромно, но многое у меня получается. В декабре прошлого года ко мне обратились жители деревни Слободка. Недавно ее присоединили к Островцу, но дорога разбита из-за строительства близлежащего микрорайона, и местным жителям, чтобы попасть в Островец, приходится объезжать ни много ни мало 12 километров.

Несмотря на то, что деревня уже находится в черте города, в ней открыли новый комплекс на 400 голов крупного рогатого скота. С точки зрения экологии это не место для такой фермы! Люди возмущаются. Написал заявление в Генеральную прокуратуру и Госконтроль. Дорогу уже начали делать.

Или такая победа. В нашем районе живет заслуженный работник сельского хозяйства страны Мечеслав Волуевич (кстати, удостоверение ему вручал Александр Лукашенко). Он бывший председатель колхоза, а потом – руководитель СПК «Гудогай». 40 лет – с 1962-го по 2003 год – руководил хозяйством.

*(Окончание на 2-й стр.)*

